# Селянская Доля

ВЫДАНЬНЕ НЕ ПЭРЫАДЫЧНАЕ

№ 2. | Чэрвень 1921. | год I.


## НА СХОД.



На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход.
Ідзі аграблены, закованы народ.
Як роўны йдзі жыхар, між роўных жыхароў,
Аддай на суд ўсе крыўды, сьлёзы, кроў.
Аб вечным катаваньні, зьдзеку далажы.
І пакажы на курганы і на крыжы.
І аб раскопаных магілах не забудзь.
Як груганы тваіх там продкаў косьці рвуць.
Як гналі пот з цябе паны і каралі,
Як гналі проч цары з радзімае зямлі.
І як крываўлюць разскаваныя рабы,
І як ты ўпадаеш з непасільнай барацьбы.
Як бацькаўшчыну тваю рэжуць на кускі,
Як гібнешь ты ад катняе рукі.
Аддаць усё на суд, на ўсенародны сход.
Ідзі аграблены, закованы народ,

Я. КУПАЛА.

# На каго спадзевацца?

Калі мы добра углядзімся ва ўсе падзеі гістарычнай мінуўшчыны, то мы ўбачымо, што жыцьцё народаў ніколі не стаіць на мейсцы.

Як вада ў рэчцы яна цячэ і кудысьці імкнецца усё ўпярод і ўпярод. Бываюць часы, калі малыя рэчкі высыхаюць, па іх руслу ходзяць, ездзяць нарэшце зусім засыпаюць, або рознымі зарасьлямі пакрываецца іх дно. Аб тым, што калісьці была тут рака застаецца адзін толькі ўспамін, казка, быль.

Рака зьнікла, але ня зьнікла тая магутная сіла, што калісь утварыла яе. Сіла прыроды ня зьнікла, яна толькі іншы выбрала шлях у сваім спрадвечным імкненьні ўпярод.

Гэтак дзеіцца і ў жыцьці людзкога грамадзянства. Часамі малыя народы зьнікаюць з арэны гістарычнага прагрэсу.

Больш сільныя пакараюць іх сваей волі, устанаўляюць свае парадкі, зьнішчаюць усе адзнакі самабытнай іх нацыанальнай культуры, руйнуюць помнікі мінулай славы. Паняволеная нацыя нібы замірае.

Але дух праўды і свабоды жыве ў грудзёх народных мас. Часы меняюцца. Жыцьцёвая сіла, як той грозны вулкан, прарывае кару гнёту. Упартым змаганьнем падняволеная нацыя здабывае сабе волю, утварае незалежную сваю дзяржаўнасьць.

Падняволеныя калісь туркамі паўднёвыя славяне (сэрбы і баўгары) здабылі сабе волю. З пад гнёту і паняволеньня Нямеччыны паўстала да вольнага жыцьця Чэха-Славаччына.

Стагнаўшыя пад гнётам самадзержаўнай маскоўшчыны, літоўцы, латышы, эстонцы і фіны, ужо маюць сваю дзержаўную незалежнасьць.

Прабудзіўся ад летаргічнага сну нядолі і беларускі народ. Вось ужо каторы год ён змагаецца за сваю дзержаўную незалежнасьць, за волю, за права на жыцьцё пад сонцам.

Аднак — у гэтым змаганьні на каго павінен спакладаць усе свае надзеі беларускі народ, на каго спадзеваецца, скуль чакаць дапамогі?

Нам кажуць: каб збудаваць незалежную беларускую дзержаўнасьць, неабходна абапёрціся на Польшчу. Па іх думцы Польшча дапаможа збудаваць вольную і незалежную беларускую дзержаву.

Абапёрціся на Польшчу... На якую Польшчу? Няўжо на панска-шляхоцкую? І як-жа памыляюцца тыя беларускія дзеячы, што стараюцца, „абаперці“ высвабадзіцельна-адраджэнскі рух беларускага народу, на панска-шляхэцкую Польшчу.

Польскія абшарнікі перад усім зацекаўлены ў сваіх маёнтках на Беларусі, А „тутэйшыя“, краёвыя паны ды шляхта традыцыяй і наогул усей сваей духоўнай

істотай так глыбока пранікнуты „польскасьцю“, што ніколі яны ня згодзяцца, каб заходняя частка Беларусі, дзе так шмат, як тыя астраўкі — параскіданы іх маёнткі ды фольваркі — гэтыя кветкі польскай культуры ўзросшыя на нядолі беларускага селянства — каб гэтыя землі ня былі далучаны да „мацежы“ Польшчы. Польскі элемент на Беларусі ёсьць злейшы вораг незалежнай беларускай дзяржаўнасьці. Да гэтага іх змушае зямельная ўласнасьць на Беларусі, ды як каланістаў — велікадзержаўная польская ідэя і нацыанальны шовінізм.

Яны добра разумеюць, што ў незалежнай Беларусі, калі селянін стане ў руля дзержаўнай ўлады — а інакш і быць ня можа, бо селянство складае большасьць усіх жыхароў Беларусі — то перш за ўсё беларуская селянская ўлада адбярэ ўсю зямельную ўласнасьць польскіх паноў і перадасьць зямлю тым, хто сваей уласнай працай будзе яе абрабляць. З'яўляючыся ворагамі социяльнымі беларускага народу, польскі элемент на Беларусі ёсьць заядлы вораг і нацыанальны. Паміріць гэта паміж сябе, знайсьці нейкі компроміс — не магчыма. Альбо незалежная Беларусь без паразіта абшарніка польскага пана, альбо гнёт і паняволеньне (ласьне тое што цяпер і дзеіцца на Беларусі пад польскай акупацыей).

Прыхільнікі Польшчы кажуць, што ёсьць польскі народ, польская дэмакрацыя і г. д. Але дзе яна? Чаму нідзе ні відаць і не чуваць голаса польскай дэмакрацыі? Чаму яна не пратэстуе проці ўсіх насільстваў акупацыйнай ўлады над безбаронным беларускім селянствам? Калі ёсьць польская дэмакрацыя, дык чаго яна маўчыць? — А раз маўчыць знача згаджаецца, знача моўчкі апраўдывае усе гэтыя нячуваныя насільства.

Ды як разумець словы „мы сільны і мы вас падзялілі“? Гэта сказаў не заядлы які небудзь эндэк, а выбітнейшы парляманскі дзеяч, Ігнацы Дашынскі (член Польскай Партыі Соцыялістычнай). Выходзіць так: „мы сільны і мы вас пакарылі, мы сільнейшыя за вас — вы мусіце быць нашымі нявольнікамі, рабамі. Вось што кажэ польская дэмакрацыя, вось як адносіцца яна да беларускай справы.

Чаго-ж тагды чакаць ад Польшчы, на што спадзевацца?

Занадта моцна уеўся шляхэцкі дух у сьвядомасьць польскай дэмакрацыі, каб яна магла аткрыта выступіць проці панскай палітыкі „kresów wschodnich“, палітыкі гвалтоўнага далучэньня да Польшчы Віленшчыны і Горадзеншчыны і нават часткі Меншчыны.

Само сабой — у Польшчы ёсьць так сама селяне і работнікі, ёсьць шэрая маса працоўнага люду. Але прыдушана іх воля. Заціснуты ім рот. На грудзёх узвалены камень ляжыць.

От-жа, калі польскі селянін і работнік скіне з сябе панаваньне шляхты, прагоне за тры-дзевяць зямель сваіх лапчывых паноў, мы тагды будзем найлепшымі яго прыяцелямі.

А пакуль ён з'яўляецца паслушным аружжам ды пакорным рабом у руках ім-

пэрыялістычнай шляхты, ідзе на падаўленьне беларускіх селянскіх паўстаньняў, паліць беларускія вёскі, нішчыць народныя багацьці, — так, ён наш вораг. І мы будзем з ім бароцца, будземо усьведамляць, бедземо тлумачыць яму тое ненармальнае становішча ў якім ён апыніўся з прычыны сваей цемнаты.

Нашы заданьні ясны, шлях наш просты.

Справа высвабаджэнья і адраджэньня Беларусі ёсьць спарва мазольных рук працоўнаго народу Беларусі.

Мы спадзяёмся і апіраемся выключна на арганізаваныя сілы працоўнага народу. Працоўны народ сам, а ні хто іншы прагоніць з роднага краю чужацкіх наезьнікаў і устанавіць лад новага жыцьця у вольнай і незалежнай Беларусі.

**Паддубіч.**

# Не ў магату далей маўчаць.

Генэрал Жэлігоўскі, — утварыўшы „Сярэднюю Літву“, абвясіціў цяпер мобілізацыю у сваё войска за 1896, 97, 98, і 99 г. г.

Прымусам ён застаўляе беларускіх селян служыць у сваім войску.

Але што такое „Сярэдняя Літва“? Хто такі генэрал Желігоўскі? Скуль ён узяўся? Чаму ён так самаўпраўна гаспадарыць у нашым родным краі?

Хто яму даў права мобілізаваць селян у сваё войска?

Адказам на ўсе гэтыя пытаньня служыць вось што:

1) — „Сярэдняй Літвы“ ніколі ня было і нема. Нема такога і народу „Сярэдня—Літоўскага“, а ёсьць беларусы, літоўцы, палякі, жыды, што жывуць у нашым краі. „Сярэднюю Літву“ штучна утварылі польскія паны, каб далучыць да Польшчы ўсю Віленшчыну і Гарадзеншчыну, дзе большасьць жыхароў ёсьць беларускае і літоўскае працоўнае селянство, а польскі элемент зусім невялікі і складаецца пераважна з абшарнікаў паноў ды залежнай ад іх засьцянковай шляхты.

2) — Генэрал Жэлігоўскі ёсьць афіцэр польскай службы. Быў начальнікам „літоўска — беларускай“ дывізіі, у якой а ні воднага сьвядомага беларуса або літвіна, ня было. У сваей большасьці складалася з пазнанчыкаў ды недабіткаў рускай арміі Юдэніча і Дэнікіна. Добра ўсім вядомы, так званы „ваенны бунт“ генэрала Жэліґоўскага, быў зроблены па загаду польскага штабу. Гэта было зроблена дзеля таго, каб лаўчэй прыкрыць свае праўдзівыя агідныя мэты, абманіць

**Нехай жыве Незалежная Беларусь!**

заходнюю Эўропу, што ось нібы, самі ўзбунтаваліся сыны Віленшчыны і Гораданшчыны і хочуць далучэньня да Польшчы. Але цяпер гэтая авантура раскрылася і нават у Эўропе ўсім вядома, як польскія паны шальмуюць праўду.

2) — Генэрал Жэлігоўскі стаўшы на чале польскай панска - шляхэцкай авантуры, захапіўшы Вільню устанавіў сваю ваенную дыктатуру. Завёў парадкі якіх і сьвет не бачыў. Распачаліся самаўпраўства і грабежствы, пагалоўныя арэшты, нячуваныя катаваньні у дэфэнзывах.

Гэтая ваенная дыктатура патрэбная адным толькі польскім панам, дзеля абароны іх маёнткаў, у корні нішчыць усе народныя багацьці Беларусі, душыць вызвабадзіцельна — адраджэнскі рух беларускага народу і стварае немажлівыя варункі грамадзкага жыцьця.

4) — Улада Генэрала Жэлігоўскага ёсьць улада акупацыйная. Народ беларускі яе ніколі не прызнае. А тое што паасобныя адзінкі беларускай інтэлігэнцыі паддаліся на польскую авантуру, прыймалі чынны удзел у „Часовай Камісіі Урадуючай“ — народ беларускі ня можа браць на сябе адпаведнасьці за іх неабдуманныя паступкі, а прыдзе час, калі належна асудзіць іх за гэта.

5) — Такім чынам, улада генэрала Жэлігоўскага ня мае ніякага-ні юрыдычнага, ні фактычнага, а тым больш а ніякога маральнага права па свойму распараджацца у нашым родным краі.

Гаспадары тут мы, беларускія і літоўскія селяне земляробы а ні авантурнікі ды прайдзісьветы генэралы найміты і верныя служкі польскай буржуазіі. „Дыктатар“ Жэлігоўскі ніякага не мае права мобілізаваць селян у сваё войска.

І мы голасна павінны сказаць: прэч з брудными рукамі!

А калі польскія паны ды іх найміты не прызнаюць іншага права, апрача толькі права грубай сілы штыка і кулямёта — працоўнае селянство павінна праціваставіць ім сваю сьвядома арганізаваную селянскую сілу.

Нехай ведаюць польскія паны, што яны жывуць не ў шаснаццатым сталецьці, калі іх продкі безнаказанна маглі зьдзекавацца над беларускім селянствам.

Нехай прыпомняць часы паўстаньняў на Беларусі у семнаццатым сталецьці, калі беларускія паўстанцы аддавалі належную заплату польскім панам за ўсё іх насільства і гнёт над працоўным селянствам.

Нехай ведае польская шляхта, што даўно ўжо мінулі часы паншчыны. Вярнуць тыя часы — безнадзейная заняцьце.

Цяпер беларускі селянін не дасць сябе пакрыўдзіць. Цяпер ён сьвядомы грамадзянін сваіх мэтаў і заданьняў. Ён ведае ў чым яго сіла. Не паасобку ён будзе бараніць свае правы і працоўныя інтэрэсы, а ўсей арганізаваннай грамадой.

**Вон акупантаў!**

Беларускае селянство ўжо зразумела, ўжо пераканалася, што не ўмагату далей маўчаць, не ўмагату цярцець зьдзек і паняверку чужацкіх наезьнікаў, гвалтаўнікоў польскіх акупантаў.

У адказ на самаўпраўную мабілізацыю генэрала Жэлігоўскага, працоўнае селянство арганізоўваецца, хаваецца па лясох і з туль адзінай згоднай грамадой дасьць магутны адпор усім насільствам польскіх паноў.

Ужо некалькі валасьцёў адмовіліся даць сваіх людзей у панскае войска. Ніхто ня йдзе. Да іх далучаюцца суседнія валасьці.

Па лясох арганізоўваюцца беларускія селянскія баявыя дружыны.

Усё беларускае селянство не зважаючы каталік ці то праваслаўны сьпешаецца стаць у рады змагальнікаў пад сьцяг за высвабаджэньне роднага краю з пад польска — панскага гнёту.

Слава селянам адмовіўшымся ісьці у польскае войска!

Слава змаганьнікам за вольную і незалежную Беларусь!

Не ўмагату далей маўчаць — усе на змаганьне!

**Т. Глеба.**

# КРЫВАВАЯ МЕЖА.

18 сакавіка 1921 г. у Рызе памеж Расіяй і Польшчай была падпісана мірная умова, згодна якой Беларусь падзелена на дзьве часткі: усходняя частка адыйшла да Расіі, заходняя частка да Польшчы.

Беларускі урад ад імяні усяго беларускага народу пратэставаў перад Расійскім урадам, перад польскім урадам і перад дзержавамі ўсяго сьвету проці жорсткага падзелу беларускага народу.

Расейскі і польскі урады, каб зьнішчыць незалежнасьць Беларусі утварылі разрыў нашага краю, ня толькі не пытаючы беларускага народу, а нават не зьвертаючы увагі на пратэсты проці разрыву.

Польшчы і Расіі патрэбна было замірыцца, патрэбна было правясьці мяжу памеж сабою і вось яны правялі мяжу, але крывавую мяжу праз жывое цела многамільённага беларускага народу:

Палякі і Расейцы думалі, што разрэзаўшы цела беларускага народу, яны назаўсёды скасуюць беларускі народ, крыватрк прыпыніцца сам сабой.

Але абмыліліся... Крывавая струміна б'ецць усё мацней і шырэй. Кроплі гэтай гарачай беларускай крыві далёка разлятаюцца па ўсяму сьвету і ўжо нема такога кутка, дзе-б ня ведалі аб крывавым падзеле Беларусі.

Польскі урад і расейскі урад яшчэ задоўга да рыжскай умовы абвешчалі усяму сьвету, што яны прызнаюць Незалежную Беларускую Рэспубліку, але усё гэта былі толькі гучныя пекныя словы,

каб усе іншыя народы у належны момэнт не зьвярнулі увагі на зьнішчэньне беларускай незалежнасьці.

Надышоў гэты момэнт і абодва урады — і польскі і расейскі — ня гледзячы на сваё пекнае абвяшчэньне, разарвалі Беларусь на часткі.

Калі-ж беларускі урад пачаў крычаць на ўвесь сьвет аб гэтым разрыве і паказываць усім народам на крывавую мяжу, якую правялі расейцы і палякі, дык тое, што хацелася-б зрабіць палякам і расейцам пацiху стала ведама усяму сьвету.

Азірнуўся расейскі урад і пабачыў, што зроблена страшэнная крывавая абмылка. Давай папраўляць справу і хутчэй утвараць з пяці паветаў Менскай губэрніі — быццам-то незалежную Беларусь і даў ей назову — „Савецкая Беларуская Рэспубліка“. А каб больш прыгажэй выставіць перад сьветам сябе і Савецкую Беларусь, расейскі урад абвешчае ўсяму сьвету, што ён заключыў мірную умову з урадам Савецкай Рэспублікі. Але беларускі народ ведае, што стварэньне Савецкае Беларусі і умова расейскага ураду з савецкім беларускім урадам — усё гэта патрэбна было, каб паправіць тую крывавую абмылку, якую зрабіў расейскі урад, падпісаўшы рыжскую умову.

А панска-шляхэцкая Польшча, хоць так сама угледзіла, што крывавая абмылка зроблена, але замест таго, каб папраўляцца, парашыла моцна прылучыць заходнюю Беларусь да сябе і з карэньнем вынішчыць усё беларускае.

Польскі жандар пануе над вёскай, польскія турмы перапоўнены беларускімі вучыцелямі і чэснымі змагальнікамі за незалежнасьць Беларусі, над усей Віленшчынай і Горадзеншчынай запанавалі польскае насільства і праізвол,

Але не даецца беларускі народ апалячыць сябе, не даецца прылучыць сябе да Польшчы.

Нехай ведаюць палякі, што калі ім не ўдалося апалячыць беларусаў у працягу 500 гадоў, дык значыцца і ніколі ў жыцьці не ўдасца.

Мы як былі беларусамі, так і застанемся, а крывавая межа, праведзеная праз беларускі народ застанецца вечна крывавай плямай на руках тых, хто яе утварыў.

Мы створым незалежную Беларусь і загоім крывавую рану не сягоньня, дык заўтра.

**А. П.**



---

## Вон з рыжскім дагаворам!

---

## Вон грабежнікаў польскіх!

---

# Селянскія ворагі і як іх перамагчы.

Больш як 500 гадоў прайшло ад таго часу, калі польская шляхта пачала прыезджаць у Беларусь і сяліцца тутка. Пасяліўшыся, гэта шляхта і тут пачала ўводзіць свае польскія законы, дзякуючы прыхілнасьці да польскай шляхты з боку літоўскага князя Ягелло, які ў той час гаспадарыў у Літоўска — Беларускім князьстве. Згодна польскім законам шляхта мела шмат рожных прывілей і правоў, якіх зусім ня мелі звычайныя селяне, бо іх у той час аазывалі „хлопамі“ толькі шляхта мела права ўладаць зямлёй, а усе, хто не належыў да шляхты павінны былі ці заставацца на зямлі і йсьці ў месты шукаць заробку, ці заставацца на зямлі, якая рабілася ўжо ўласнасьцю шляхты, і стацца пакорнымі парабкамі гэтай шляхты. Дзеля таго, што „хлопы“ селяне нездаволеныя новымі шляхэцкімі парадкамі вельмі часта пачалі пераходзіць ад аднаго пана да іншага, або зусім кідалі вёску і йшлі ў места, ці ўцекалі за граніцу, шляхта дабілася ад ураду новых законаў а каторым забараняліхлопам пакідаць самавольна сваю вёску і такім чынам аслабаняцца ад панскай залежнасьці. Паны-шляхта атрымалі права суда над селянамі, права прадаваць зямлю разам с селянамі, права прадаваця селян асобна ад зямлі, права прадаваць селянскія семі паасобку і ў разьбіўку: так бацькоў прадавалі аднаму пану, а дзяцей — іншаму пану. Ўрэшце паны самавольна прысвоілі сабе права распараджацца жыцьцём і сьмерцю сваіх селян — і пачалі глядзсць на селян, як на працоўная быдло, або нават як на бяздушную рэч.

Польская шляхта, прыехаўшая на Беларусь і атрымаўшы ў сваю ўласнасьць вялізарныя абшары зямлі разам з сельянамі, карысталіся бязкоштнай селянскай працай для апрацоўкі сваіх абшараў і багцела.

Наша беларуская шляхта гледзючы на гэтыя прывілеі і права польскай шляхты захацела так сама атрымаць гэткія правы на зямлю і селянъ.

Але для гэтага беларуская шляхта павінна была зьмяніць сваю праваслаўную веру на каталіцкую, павінна была зьмяніць сваю беларускую мову на польскую мову і павінна была стацца ва ўсім падобнай да польскай шляхты.

Асабліва ў сваей прыхільнасьці да Польшчы.

Хочь і цяжка спачатку было зрабіць гэткую перамену—адрачыся ад веры, адрачыся ад роднай беларускай мовы, ад усіхъ родныхъ звычаяў і ва ўсім малпаваць польскіх паноў, але беларуская шляхта на ўсё згодзілася, каб атрымаць правы на зямлю і бяскоштную працу селян.

Беларуская шляхта гэтыя правы атрымала, забрала ўсю зямлю ад селян і ўтварыла сама паншчыну, але за то і сама апалячывалася ўсё больш і ўрэшці апалячылася да мозга касьцей.

Такім чынам праз прыехаўшую польскую шляхту і праз сваю апалячаную беларускую шляхту, ўсё беларускае селянство апынулася без ніякіх чалавечых правоў—інакш кажучы шляхта паняволіла ўсё селянство і утварыла на Беларусі паншчыну.

Гэтая паншчына, гэтае ганебнае рабства трывала над беларускімі селянамі больш як 200 гадоў і за гэты доўгі час разьвялося шляхэтных паноў цэлыя дзесяткі тысяч. Паміж шляхтай былі і вельмі багатыя але былі і такія, каторыя мелі ўсяго два—тры загоны благой зямлі і называліся „загоновай шляхтай“. Усё-ж такі ўся шляхта ад самага багатага вельможнага пана да самага прапіўшагася, збяднеўшага і абдзёртага шляхціца зьдзекаваліся, мардавалі і казьнілі безбаронных, паняволеных селян.

Больш заможныя паны вялі пышнае, раскошнае жыцьцё, казыраліся адзін перад другім сваімі багатымі балаваньнямі, хараством сваіх дарагіх вопратак, будовай пекных палацаў, утрыманьнем надворнага войска, шмат прыслугачоў і зьбяднеўшай гультайнай шляхты, якая жыла і кармілася бяскоштна цэлымі сотнямі і ўвесь час гультайнічала і п‘янствавала.

Усё гэта патрабавала новых і новых даходаў, а даходы панамъ дастаўлялі паняволеныя селяне і дзеля гэтага на селян навалівалі шмат цяжкай працы і падаткаў. Кожны пан у сваіх вёсках і дварах прымушаў селян працаваць на пана шэсьць дзён, а селянам, каб як-небудзь пракарміцца, даваўся толькі адзін дзень у тыдзень—гэта нядзеля.

Апрача гэтай звычайнай паншчыны, залежнай ад праізволу пана, селянін павінен быў адбываць і іншую працу і падаткі. Пан забіраў ад яго на службу у двор дзяцей, не паменшаючы працы і падаткаў.

Селяне былі абложаны рожнымі паборамі; тры разы ў год яны павінны былі прынасіць пану так званы „осый“, г. знача, некалькі чецьвярыкоў збожжа, некалькі пар каплуноў, кур, гусей, — так сама са ўсей маентнасьці быкоў, сьвіней авец, мёду і пладоў — селянін павінен быў аддаваць пану дзесятую частку і яшчэ зверх таго кожны вулей быў абложаны асобным падаткам — пад назваю „рагавога“, за права лавіць рыбу селянін плаціў „стаўшчыку“, за права пасьвіць скаціну — „спасные“; за права лавіць зьвярыну — „дзесяціну“, за права змалоць зярно — „сухомельшчыну“..... і гэтак без канца і меры нясі пану і працуй на пана, нясі і працуй.

А колькі гвалту, зьдзеку і мук выцерпела беларускае селянства ад вяльможных паноў польскай шляхты.

Куды не паедзіць пан са сваей разбэшчанай сьвітай — там чыста беда селянам, панскія прыслугачы і прыхлебачы — ўся гэта хэўра гультайнай шляхты — псуюць на нівах хлеб, забіраюць у селян курэй яйкі, масла, каўбасы, а калі селянін прыйдзе да пана пажаліцца на іх, дык яго яшчэ паб‘юць, што непакоіць „панскую міласьць“ такімі „глупствамі“. Яшчэ ў тыя часы адзін польскі ксёндз — іезуіт Скарга пісаў аб польскай шляхце, так: — „Німа гаспадарства як у нас пад бяскрэсым панаваньнем

шляхты. Разгневаны пан або каралеўскі стараста ня толькі адбярэць у беднага хлопа усё што ў яго ёсьць, але і самога заб'ець, калі ўздумаецца і як уздумаецца і за гэта ні ад каго дурнога слоўка не пачуець“.

Адзін з найбольш шчырых польскіх пісьменнікоў часоў паншчыны Старавольскі, пісаў пра шляхту: „Ніхто ня хочэ жыць працай, кожны лаўчыцца захапіць чужое, лёгка дастаецца яно, лёгка і прапускаецца, кожны толькі аб тым і думаець, як бы паразмашысьцей пабаляваць на заробкі убогіх людзей, а гэтыя заробкі здзіраюцца з бедных людзей са сьлезамі, а часамі і са скурай, — адна асоба з'едаець за адзін дзень столькі, сколькі шмат беднякоў запрацуюць у доўгі час, — усё йдзець у дзіравы мех — у бруха“.

Калі самі палякі так пішуць аб сваей шляхце — значыцца была яна запраўды зьверам лютым для селян, была яна самым страшным ворагам працоўнага селянскага люду.

Гэтыя паны, гэтыя заможныя і дробная шляхта блажэнствала ў раю у той самы час, калі беларускія селяне мучыліся як у пекле.

Так было за часы паншчыны, якая от ужо больш як 50 гадоў быццам — то скасована.

Але пагледзімо на сучаснае жыцьцё нашых беларускіх селян пад польскай акупацыей і на жыцьцё тутэйшніх паноў — абшарнікаў.

Чы маюць селяне—беларусы столькі зямлі, каб удастач пракарміць сваю сям'ю?

Не, не маюць.

Чы ўладаюць польскія паны вялізарнымі абшарамі зямлі, лясоў і лугоў?

Так, уладаюць і па сёняшні дзень.

Чы йдуць селяне патураемыя галадам, працаваць за марныя грошы на панскіх палях і дварах?

Так, йдуць і цяжка працуюць.

Чы насьмехаюцца і зьдзекуюцца польскія паны над беларускімі селянамі?

Так, сьмяюцца над беларускай мовай, утвараюць гвалт над тымі селянамі, якія шчыра кахаюць сваю Бацькаўшчыну.

Што - ж? Тая самая паншчына, тыя-ж самыя польскія паны паняволіваюць беларускіх селян і твораць ўсё, што ім уздумаецца.

Заклятыя ворагі беларускага селянства засталіся яшчэ і моцна трымаюць у лапе усе суседнія вёскі, моцна сідзяць на сваіх зямельных абшарах і бароняць іх з дапамогай польскіх жандараў і жаўнераў.

Як і раней — польскія паны сыты голодам нашага беларускага селянства.

Ўжо прыйшла пара, селяне, пакончыць з гэтым векавым польска-панскім засільлем.

А дзеля таго, каб змагацца з польскімі панамі і перамагчы іх вам селяне беларускія трэба:

1) Цьверда памятаваць, што вы — беларусы і нічога супольнага з польскімі панамі ня маеце і ня хочыце мець.

2) Не запамінаць ніколі, што вы складаеце асобны ад палякаў народ — беларускі народ, што вы маеце сваю асобную мову свае звычаі, сваю гісторію і хочэце мець сваю асобную беларускую дзержаву.

3) Цаніць і шанаваць сваю родную беларускую мову, бо гэтая мова съведчыць вам аб тым, што вы — асобны беларускі народ. А забудзеце ці адрачэцеся ад сваей мовы — дык польскія паны зараз-жа прылучаць вас да Польшчы і навекі тады ня вылезьці вам з польскага хамута.

4) Трэба пашыраць нашу нацыянальную сьвядомасьць, бараніць нашыя беларускія школы.

5) Трэба аб'еднацца селянам — бо ў гэтым аб'еднаньні селянскім вялікая сіла, якой не разьбіць польскім панам.

Але ёсьць яшчэ адзін спосаб скінуць польскіх паноў з нашага карку, спосаб самы пекны, самы хуткі, самы найлепшы спосаб, якім хутка ў раз, назаўсёды можна скончыць барацьбу. Можа вы, браты селяне, самі дагадаецеся, які гэта спосаб.

А хто хутчэй дагадаецца — гавары іншым і калі усе селяне будуць ведаць — тады пачынайце усе разам гэтым лепшым спосабам нішчыць паншчыну на Беларусі.

Згінь ґультайная панска — шляхэцкая парода!

Падыміся многомільённае беларускае працоўнае селянство!

**І. Корэнь**



# РАЗРЫВАЮЧЫЯ СІЛЫ.

Беларусам стала жывучым на сваей роднай старонцы часта здараецца чуць такія словы: калі прыезджае да іх паляк ён кажа ім: „вы — не беларусы, а палякі, толькі крыху сапсутыя абмаскаленыя палякі“, а калі у беларускую старонку прыезджае — велікарус дык ён гаворыць наадварот: „вы — рускія, толькі крыху сапсутыя, апалячаныя рускія“.

Тым беларусам, якім здаралася апынуцца у Расеі, напрыклад у Саратаўскай або ў Тамбоўскай губэрніі, прыходзілася не раз чуць: „эй, ты — палячышка! Мазурык!“...

А беларусам папаўшым у Польшчу напр. у Варшаўскую або Калішскую губэрнію, прыходзілася чуць: „слухай, ты — москале, кацапе!“...

У часе германскай вайны, з нашымі уцекачамі у Расеі часта здараліся гэткія выпадкі:

У бежанскай камісіі беларуса пытаюцца: „ты якой губэрні?“

Той адказывае: „Мінскай“.

— „Значыцца — ты паляк!“

— „Не, я — не паляк!“

— „Дык хто-ж ты? значыцца—рускі, калі не паляк?“ — здзіўлены зноў пытаецца сябра камісіі.

— „Не, паночку, я — ня рускі, але беларус!“ — з няпэўнасьцю гаворыць ацекач...

— „Што-о-о-о? Як ты сказаў?... Беларус?!? Што гэта за штука такая?...“ — Усе сябры камісссі пераглядаюцца паміж сабой і пачынаюць смеяцца.

— А ты якой веры?—пытаецца камісія.

— „Праваслаўны“....

— „Праваслаўны?! А ну перекрестісь!“

Селянін крэсціцца. Усе сябры камісіі гладзяць як на дзіва і зноў пераглядаюцца паміж сабой.

— „А ну скажы „Отчэ наш“...

Селянін гаворыць

— „От чудеса, прасці Господі! А ну кажы яшчэ „Верую“...

Беларус пачынае казаць „верую“, але на палове малітвы камісія спынівае яго і кажыць;

— „Да ты самы звычайны праваслаўны рускі чалавек, толькі гаворка твая якаясь брыдкая. Так значыцца і запішамо: „рускі, праваслаўны“, а беларусаў — мы такіх ня чулі, можаш ісьці... хто там яшчэ не запісаўся?“

Паміма волі устае пытаньне: як-жа стварылася, што расейцы ня ведаюць пра беларусаў? Мы-ж ведаем, што ёсьць расейцы?

Стварылася гэта такім чынам.

З даўніх часаў, больш як 150 гадоў таму назад, маскоўскія цары, пачынаючы ад Кацярыны II уселякімі спосабамі перараблялі беларусоў на рускіх а польскія каралі на палякоў. Польскія езуіты прымушалі беларусоў прынімаць унію а расейская царыца Кацярына II пачала з таго, што гвалтам прымушала беларусоў — уніятаў пераходзіць у праваслаўе. Вуніяцкія цэрквы зачыняліся або перарабляліся на праваслаўныя, вуніяцкіх сьвяшчэннікаў кідалі ў турмы і на іх мейсца ставілі праваслаўных Беларусаў, якія не згаджаліся прыймаць праваслаўе секлі розгамі і білі палкамі.

Усіх беларусоў перакрэшчаных у праваслаўе прыказана было лічыць рускімі.

Далей расейскія цары як цяпер робяць палякі ўсё больш нішчылі ўсё беларускае. Пры Мікалаю I зачыняліся беларускія школы, а замест іх адчыняліся расейскія.

Духавенства, чыноўнікі і вучыцялі расейскія стараліся як мага вынішчыць беларушчыну і ў цэркві і ў школах і ў жыцьці беларускага народу.

І ня дзіва, калі ў працягу больш як сто гадоў гаварылі ў цэрквах, вучылі дзяцей у школах, пісалі ў кніжках, газэтах, гаварылі ва ўсіх установах і ўсюды, што Беларусаў ня было ніколі і німа — дык ня дзіва, што ніхто з расейцаў, нават адукованых нічога ня ведае аб беларусах. Але ёсьць і большае нешчасьце.

Дзеці запраўдных беларусаў атрымаўшы расейскую адукацыю ў школах, потым у унівэрсытэтах — у якіх а ні гу-

ка ня было на беларускай мове, а ні слова аб тым, што беларускі народ ёсьць асобны народ, у якога ёсьць свая асобная мова, звычаі, песьні, прыказкі, забабоны і г. д., — гэтыя абмаскаленныя беларускія дзеці вырастаючы адракаліся сваей матчынай мовы, свайго народу, сваей бацькаўшчыны.

Беларусы — чыноўнікі, сьвяшчэннікі, вучыцялі і амаль ня ўся беларуская інтэлігэнцыя лічыла сябе расейскай, гаварыла толькі на расейскай мове і лічыла беларускую мову — мовай „простай, мужыцкай“. Абмаскаленая беларуская інтэлігэнцыя старанілася свайго народу, зьдзекавалася над яго мовай.

Беларускі селянін бачыў, як вучыцель, радзіўшыйся у беларускай вёсцы, прыезджаў праз многа гадоў вучыць сялянскіх дзяцей і пачынаў зьдзекавацца над селянскай мовай, гаварыў толькі па расейску і раіў усім селянам кінуць „простую, мужыцкую мову“.

І селянін верыў свайму вучыцелю і так сама пачынаў лічыць сваю родную мову кепскай мужыцкай.

Ня ведалі абмаскаленыя вучыцялі, што беларуская мова гэта ёсьць самая галоўная і найбольш пэўная адзнака беларускага народу, што мова адрожнівацьць беларусоў ад іншых народаў, што трымаючыся сваей матчынай мовы беларускі народ да тых час захаваў сябе і ад расейцаў і ад палякоў, якія так хацелі вынішчыць усё беларускае.

Наша беларуская мова вельмі даўняя, зложаная паступова з моў даўнейшых славянскіх пляменьняў — дрыгавічаў, радзімічаў і крывічоў. У шэснаццатым веку беларуская мова ў князьстве Літоўска — Беларускім была мовай дзяржаўнай, бо яна была дэлікатнай і лёгкай. Наша мова была дзяржаўнай і літэратурнай, на ёй пісаліся усе граматы, дакумэнты духоўныя і ґамадзянскія (сьвецкія) кнігі, летапісі, вершы, песьні і г. д. Гэтыя рукапісы і кнігі **напісаныя** на беларускай мове яшчэ у чатырнаццатым, пятнаццатым і шаснаццатым веку — знаходзяцца ў рожных бібліатэках, частка іх, напрыклад, у Вільні, дзе ёсьць некалькі тысяч старадаўніх беларускіх рукапісаў і кніг.

Потым беларускую дзержаўную і літэратурную мову выціснула польская і расейская мова, было забаронена раней полякам а потымі расейцамі друкаваць кнігі на беларускай мове.

А народная мова захавалася ў цэласьці і зноў пачынаецца літэратурны росквіт нашае беларускае мовы. Не здалелі яе пахаваць, не патрапілі вынішчыць ні палякі, ні расейцы.

Апрача знішчэньня нашае мовы расейцы і палякі прабавалі і іншыя спосабы каб загубіць нашу беларушчыну.

Пасьля школы і дзержаўных установ — гэткім спосабам была царква.

Маскоўскія цары пашыралі на Беларусі праваслаўную царкву, а польскі каралі — каталіцкі касьцёл.

## Вон Паноў!

Праваслаўныя свяшчэньнікі угаварывалі праваслаўных беларусаў, што яны ёсьць расейцы, а каталіцкія ксяндзы угаварывалі беларусаў — каталікоў, што яны палякі.

Такім спосабам беларускую душу разьдзіралі на часткі, цягнучы яе то да расейцаў, то да палякоў.

Вялікую шкоду зрабілі беларускай нацыянальнай ідэі панаехаўшыя ў Беларусь расейскія памешчыкі і польскія паны. Але расейскія памешчыкі, як менш адукаваныя і лянівыя, імкнуліся толькі эканамічна прыгнетаць беларускіх селян мала зьвертаючы увагі на іх мову, звычаі і рэлігію.

У той час польскія паны, польская шляхта пачалі уводзіць на Баларусі сваю польскую культуру.

У першы чарод пад уплывам палякоў сталі апалячывацца беларускія паны, далей больш заможныя гаспадары і беларуская шляхта і ўсе яны праз некалькі дзесяткаў гадоў зусім апалячыліся і ў сёняшні час лічуць сябе не беларусамі, а палякамі.

Расейскія памешчыкі і польскія паны абходзіліся з беларускім селянствам як з быдлам, высьмевалі, зьдзекаваліся над беларускай мовай, называючы яе „мужыцкай“ або „быдлячай“ мовай.

Паны гардзіліся сваей расейскай ці польскай нацыянальнасьцяй, гутарылі толькі па расейску, ці па польску і ўвесь час убівалі ў галаву селяніну, што німа беларускага народу, німа беларускай мовы.

Шкадлівы ўплыў дзеля нацыянальнай сьвядомасьці беларускіх селян мелі яшчэ салдаччына, дзе перараблялі беларусаў на маскоўскі капыл. Пісьмы да дому ў вёску пасылаліся напісаныя на расейскай мове, самаго жаўнера — беларуса адучывалі гутарыць на роднай мове і вертаючыся дамоў ён казыраўся сваей абмаскаленай гутаркай...

Не было ў селян нашых добрых прыкладаў пашаны да беларускай нацыянальнасьці, ня было на вачах сваей беларускай інтэлігэнцыі, усе навокала высьмевалі яго „простую“ мову, расейцы цягнулі да сябе, палякі — да сябе і наш селянін заставаўся ўвесь час са сваей мовай адзінокім. Прахадзілі дзесяткі гадоў, усе кругом толькі сьмеяліся над беларускай нацыянальнасьцяй і не было голасу баронячаго беларускасьці.

Урэшце селянін пачаў як бы пераконывацца ў тым, што трэба яму далучацца у якую-небудзь старонку — ці да расейцаў ці да палякоў, бо беларусу з яго мовай зачынены усе шляхі да школы, да адукацыі, да культуры.

Селянін азіраўся навокала: ні школ беларускіх, ні кніжак, ні газэт, ніхто з адукованых людзей не ўжывае яго мовы ва ўсіх установах сьмяюцца над яго мовай... усе і ўсё было супроць яго — беларуса.

**Вон польскіх каланістаў!**

Вялікую боль душы перанёс беларускі селянін, пакуль пачаў адракацца ад свайго нацыянальнага і стаў называць сябе „тутэйшым“.

Ганебныя векавыя стараньня расейскіх і польскіх патрыотаў, душыўных беларускую нацыянальную ідэю хоць і не дасягглі сваей мэты, усё-ж такі зрабілі тое, што беларуская нацыянальная вера дала глыбокую балючую шчэліну, якая адчуваецца ўсё мацней і мацней. У цяперашнія часы, калі мы беларусы павінны згуртавацца і йсьці да аднэй мэты — незалежнай і непадзельнай Беларусі. — нават у гэтыя часы ёсьць з аднэй стараны беларусы, якія цягнуць Беларусь да Польшчы, а з другой стараны — якія цягнуць да Расеі.

Ось у гэтым расколе нашай нацыянальнай веры, у гэтай разбежнасьці нашых нацыянальных мэт — нашае вялікае нешчасьце, нашая небяспечная слабасьць.

У гэтым нешчасьці, ў гэтым аслабленьні нашых нацыянальных сіл вінны і расейскія царскія русыфікатары і польскія шляхэтныя полёненізатары. Яны самі рэзалі нашае нацыянальнае цела і праз сваіх вучыцялёў, чыноўнікаў, памешчыкоў, паноў і духоўных бацькоў — сьвяшчэннікоў і ксяндзоў — давалі яшчэ самім беларусам — праваслаўным і каталікам — добра наточаныя нажы, каб браты самі рэзаліся паміж сабой.

Але усе раны загояцца, усе беларусы праваслаўныя і каталікі аб'еднаюцца на абарону сваей падзеленай і змучанай бацькаўшчыны і на абарону сваей роднай пекнай мовы.

*І—н.*







**N. N.**

Брамы нябесныя змоцні, о Божа,
Кліч Арханёлаў стаць да атакі,
Бо праз прычыну ксяндзоў і дэвотак
Неба у „крэсы“ зьменюць палякі.

Стануць жандары па райскіх шляхох
Праўду сьвятую ганьбіць і бэсьціць.
І ўрэшці, быць можа, Цябе стары Божа,
Нейкі „Пілсудзчык“ замесьціць...





*АНТОН НЕБАРАКА.*

# Сьмяюся я над вамі...

Сьмяюся я над вамі, вы крывавыя каты мае, сьмяюся...

Катуйце, рэжце маё цела, капайце яміну-магілу майго жыцьця — я ўсё-ж такі, як бачыце, даволі яшчэ маю сілаў, каб зьнеimportant сьмеяцца над вамі.

Адарвалі мяне ад радзімых палёў, ад радзімае хаты, ад бацькоў-старыкоў, ад дзяўчынкі маей — журавінкі... Кінулі мяне ў сьмярдзючую яму, цямніцу-турму, на катаргу мяне саслалі... закавалі ў жалезныя путы...

Дурныя!... ха-ха-ха!... Гэта-ж і птушку нельга прымусіць забыцца аб волі, аб жаданьні падняцца да высі нябеснай, да сонца і зор залатых.

А я — чалавек! Я маю Розум і Волю, я маю агністую веру ў пабеду праўды і дабра!

О, якія-ж вы дурныя, сьляпыя чарвякі! Хоць і ў няволі я ў вас, але сільнейшы я ад вас! Што-ж, трымайце!... Трымайце мяне пад замком, за жалезнымі кратамі, рабіце свой суд на да мною — я панскае ласкі ад вас не хачу!...

Але ведайце, паганыя вы гады, агідныя пачвары — блізка ўжо дзень, калі ланцугі разарвуцца і праб'е апошні час народнага над вамі суда.

Духа змаганьня за праўду й свабоду ніколі ніхто не пагасіць!

І не вам, о, не!... Не вам сьляпым і бязглуздым гэты сьветлы агонь пагасіць. Не вам, мізэрным, задушыць тую сілу, што спавіла ўсю прыроду і на якой трымаецца ўвесь сьвет.

Гэтая сіла — ваш вораг, о каты мае. Гэта сіла — помста над вамі, тыраны, за зьдзек і паняверку, за бязвінна пралітую кроў!...

І не ўцячы вам, не схавацца нігдзе ад яе. Яна вечная, ўсесьветная гарыць і грэе толькі тых, хто разумее, хто ведае яе, — яна слабому дае сілу цярпець і з улыбкаю на вуснах знасіць паняверку і нялюдзкія зьдзекі — адважных і сільных духам трымае горда ў недасягаемай высі гонару і вечнай славы, а трусаў подлых кідае ў нябыцьцё.

Дык катуйце, рэжце маё цела, о лютыя каты мае! Я маю Розум і Волю, яшчэ даволі маю сілаў, каб змагацца з няпраўдай і злом і сьмяюся... сьмяюся я над вамі вы бязглуздыя, о крывавыя каты мае!...

Восень 1920 г.
Домбе, пад Кракавам.



ПАЎЛІНКА

# РАСТУЦЬ СІЛЫ.

(1-шы акт са сцэнічнага твору „За волю Бацькаўшчыны“)

**Асобы 1-га акту.**

ЯНКА ГАРЭЛЬЧЫК — 25 г. — коопэратар.
ЗОСЯ — яго жонка — 22 г. — вучыцелька беларускай школы.
ЯЎХІМ ГРУЗЬДЗЬ — 50 г. — селянін.
АЛЕСЬ — — — — — 14 г. |
РЫГОРКА — — — — 13 г. | вучні беларускай школы.
АГАТКА — — — — — 10 г. |
АНТОНЁВА — — — 35 г. — шляхцянка.
СТАСЮК — яе сын — 14 г. — вучань польскай школы.

---

(Рэч адбываецца у сьвяточны дзень у пакоі Гарэльчыкаў. Пасярод стол накрыты белым настольнікам, пад сталом на памосьце саматканы дыван, направа памеж вокан нізкая канапка так-сама пакрыта тканінай. На сьцяне над канапай некалькі паяскоў, фатаграфіі беларускіх дзеячоў і пісьменьнікаў. Налева ў куце шафа, бліжэй сцэны ложак).

ЗОСЯ (сядзіць пры стале, на якім шмат розных папераў, кніжак, сшыткоў. Яна перагледае і папраўляе дзічачыя сшыткі). Ну, апошні сшыток. (чытае). „Наша сьвята. У чацьвер 25 сакавіка будзем сьвяткаваць дзень аб-яў-лень-ня... (папраўляе) абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі. Калісь мы Беларусы... (далей чытае невыразна, што раз цішэй. Праз хвіліну ажывіўшыся) Го-го! бач ты яго! (чытае зноў) „Хоць мы яшчэ малыя, але ўсёроўна мы ўсё ведаем, хто нас крыўдзіць, мы ведаем, што ўсе гэтыя чужыя хочуць каб мы ўсе ім служылі і б'юць нас. А як тату разстрэлілі і яго хавалі у магілку, дык я маліўся, каб вырас гэткі вялікі як тата і каб мы ўсе вырасьлі, тагды мы прагонім чужых разбойнікаў і не дамося ў няволю. А тагды будзе ня гэткая сьвята, а праўдзівая незалежнасьць“ (паглядзеўшы на вокладку) Маладзец Рыгорка! Цяпер я бачу, што будзе каму нас заступіць у змаганьні. Дрыжыце тыраны! Расьце новая, маладая армія змаганьнікаў за волю бацькаўшчыны. На магілах замучаных бацькоў сваіх яна прысягае вызваліць народ з пад ярма чужацкага, прысягае змагацца і — зможа! (глянуўшы на гадзіннік) Ой-ё-ё, як позна! — ужо трэцьцяя гадзіна! Я-бы

тое, што мне так есьці хочыцца? Баценькі мае! я-ж нічога на абед не прыгатавала, а ён галодненькі прыдзе... Ну, Зося, хутчэй, хутчэй. (Пасьпешна сабірае са стала кніжкі, сшыткі і хавае ў шафу. Глянуўшы ў вакно) Вось і ён ужо йдзе.

ЯНКА (ўвайшоўшы затрымліваецца у дзьверах і працягнуўшы рукі гаворыць да Зосі з пяшчотай, радасна). Жаўраначак ты мой! мушка ты мая!...

ЗОСЯ (кідаецца ў яго абняцьця).

ЯНКА (цалуючы). Замаркоціўся па маей птушацці маленькай... Так сьпешаўся, так сьпешаўся, аж чуць ня бегам бег, каб хутчэй пабачыць, прытуліць маю курносінькую...

ЗОСЯ (хаваючы галаву на яго грудзёх і тупаючы нагамі). Ня хочу!

ЯНКА. Ня хочаш? Ха-ха-ха!... Ну дык мой перасёначак.

ЗОСЯ (як і перш). Ня хочу!

ЯНКА. Мая крапіўка.

ЗОСЯ. Ня хочу!

ЯНКА. Ну, мая кветачка, маё сонейка, мая птушачка...

ЗОСЯ. Ось, гэта дык хочу. А за гэта я зраблю табе чмок у вушка. (хоча яго пацалаваць у вуха. Янка бароніцца, бегаюць, дурэюць, урэшці спрытна знянацку цалуе яго ў вуха).

ЯНКА (хватаючыся рукой за вуха працяжна). Што-о-о-ж ты наробыла?...

ЗОСЯ (зрываючыся з канапкі, на якой дурэючы апынуліся). А вох-ці-мне! Ты-ж галодненьні зусім, а я яшчэ нічога не прыгатавала — так занялася гэтымі сшыткамі.

ЯНКА. Кінь, Жаўраначак, гаварыць аб ежы. Ці ў ежы шчасьце? Ось, давай лепш пасядзім ды пагутарым. (Цягне яе за руку і садзіць каля сябе). Я такі шчасьлівы з табой... (туліцца)

ЗОСЯ (са шчасьлівай усьмешкай прытуляе яго і гладзіць па галаве). І мне добрынька з табой, Яначка... (паўза) Ты ведаеш, я страшэнна здаволена са сваей працы ў школе.

ЯНКА (падняўшы галаву). І я здаволены з маей працы. Сягоньня быў агульны сход. Усе запрапанованыя мною рэзалюцыі былі прыняты... Бачыўся з накаторымі хлапцамі... Закінутая іскра разгараецца. Малайцы хлопцы, даль-бо! Сягоньня прыдуць сюды. Ёсьць з Менска весткі.

ЗОСЯ. З Менска! Якія?

ЯНКА. Яшчэ ня ведаю. Там нязручна было. Ўсюды поўна шпікоў, Прыдзе сюды.

ЗОСЯ (змяніўшы тон). А усё-ж такі бульбу трэба варыць. Пусьці!

ЯНКА. А ты зноў аб бульбе. (ускочыў, хватануў яе ў абоймы і сьпеваючы

„Гарні, гарні бульбу з печы
„у торбачку ды за плечы...

пусьціўся танцаваць).

---

**Вон чужаедаў!**

---

ЗОСЯ (спачатку упіраецца). Ды пусьці! вось дурнюк... (а пасьля паддаецца і разам сьпеваючы танцуюць кругом стала).

ЯНКА (перастаўшы танцаваць). Ну добра, вары сабе бульбу, але пад варункам, што і я буду абіраць.

ЗОСЯ. Ось, яшчэ што выдумаў. Глядзі, якія чорныя пальцы пасьля будуць.

ЯНКА (цалуючы яе пальцы). А што-ж мае лепшыя, чымся твае худзенькія пальчыкі?

ЗОСЯ. Як заўважыць хто, дык сьмеяцца будзе — скажэ „жонка беднага заганяе бульбу скрабаць“.

ЯНКА. Хай сабе сьмяюцца. Мы з табой аднолькова працуем, аднолькова ямо, — чаму-ж ня можам аднолькова і абед прыгатаваць... Давай нож!

ЗОСЯ (прыносе з сенцаў кошычак з бульбай, вядзерца з вадой, высоўвае з пад ложка калодачку, сядае і абірае бульбу).

ЯНКА (скінуў куртку, азяў нож і сеўшы каля кошычка на абернутае крэсла, зацягнуў:

А ў бары, бары
Тры дарожанькі (падхваціла Зося)
Гэй, гэй, гэй.
тры дарожанькі... і г. д.

(Сядзяць, абіраюць бульбу і сьпеваюць. Пры другой зваротцы уваходзе ЯЎХІМ. Прадаўгаватыя валасы крыху зблытаныя, з пад навісшых броў дзіўным блескам гараць вочы. Паморшчаны, але энэргічны твар пакрыты невялікім, ужо сіваватым зарастам. Вусы падстрыжаныя. Апрануты у кароткі кажух, падперазаны поясам, порткі зрэбныя, на нагах лапці, у зубах піпка. Увайшоўшы кіўнуў галавой і сядае каля шафы на нізкім куфэрачку і пыкаючы час ад часу з піпкі падцягівае песьню фальшывым голасам. Пад канец песьні ён устаў, плюнуў у куток, вытрас піпку, схаваў яе і падышоўшы да Янкі цьверда кажэ) Дайце нож.

ЯНКА (хутка абцёршы нож аб сьціračку падае яго Яўхіму).

ЯЎХІМ. Ну, а цяпер ідзеце ад сюль.

ЯНКА. Чаму?

ЯЎХІМ. Ды ідзеце хутчэй! (быццам да сябе) Бульбу толькі псуе...

ЗОСЯ. Э! памагае ён... Я тры бульбіны абяру, пакульле ён адну і тую толькі падлубае, парэжа...

ЯНКА (устаючы). Дык вы не задаволены маей працай? праганяеце? Добра

ЯЎХІМ (моўчкі садзіцца і абірае бульбу).

ЯНКА. А здорава вы, дзяцька, пад рэзалі гэтага шляхцюка. Ось лоўка!

ЗОСЯ. Якога? Райскага?

ЯНКА. Ды не, гэтага інструктара „Стражы Крэсовай“. Наеліся — кажэ — мы даволі вашай солі ды перцу, аж па-

**Усьведамляйце адсталых!**

ліць агнём ня толькі ў році, а і ў сэрцы... Мы сваей душы не прадаём за соль ды за муку — гэта — кажэ — толькі ў вас паноў такі звычай прадаваць чорту душу. А ўрэшці — кажэ — хто вас, панічыку, прасіў апякавацца тут намі? Ідзеце сваей дарогай і ня умешывайцеся ў нашы справы. Та-а-ак, маўчыць, маўчыць наш дзяцька, але калі адазвецца, то ўжо скажэ як мае быць.

(Уваходзяць АЛЕСЬ, РЫГОРКА і АГАТКА. Кожны прыносіць некалькі флачкоў беларускіх і скручаную ў трубачку паперу. Сказаўшы „добры дзень“ станавяцца каля парога).

АЛЕСЬ. Мы прышлі паказаць, ці добра гэтак будзе (падае флачкі).

ЗОСЯ (устала і абцёршы рукі бярэ іх) Дужа добра, дзеткі. Знача, кожны будзе мець такі флачок? — вось будзе прыгожа, як у чацьвер пройдзем па мястэчку ўсей грамадой з песьнямі ды з флачкамі.

АЛЕСЬ. Авось яшчэ. (Разьвёртывае плякат пекна размалёваны з надпісам: „Нехай жыве Незалежная Беларусь“) Гэта трэцьці аддзел панясе на перадзі, а ў Рыгора для другога ёсьць.

ЗОСЯ. Ну, пакажы, Рыгорка, свой.

РЫГОРКА (разьвёртывае сваю работу. Не такая прыгожая, як першая, але буйнымі літарамі напісана: „Мы здабудзем сабе волю“).

ЯНКА (гледзячы збоку). Добра! ...ы хлопцы!

...ОРКА Агата напісала для свай... але ня хоча паказаць. Дай

АГАТА (стаіць засароміўшыся, адварачываецца і ня хочэ даць).

ЗОСЯ (ласкава). Чаго-ж ты саромішся, пакажы, што ты там напісала (бярэ яе за плечы і вядзе да стала).

АГАТА (упіраецца, але пасьля схаваўшы вочы падае свой зьвіток. На простай белай паперы крывымі літэрамі напісана „Будзім як сонца“). Пані нам гэдак гаварыла ў клясах — дык я і напісала.

ЗОСЯ. Але-ж добра, вельмі добра, і чаго-ж ты дурненькая саромішся?

ЯЎХІМ (праз гэты час кончыў скрабаць бульбу, памыў нажы і паклаў іх ў шафу. Кашолку з шалупякамі і вядзерца вынес у сенцы. Вярнуўшыся кажа да Зосі) Я Альжбеце даў — яна зварыць.

ЗОСЯ. Дзякую, але па што-ж кабеціна мае турбавацца...

ЯЎХІМ (моўчкі садзіцца там, гдзе і перш сядзеў, дастае піпку і закурывае)

АЛЕСЬ. Антанёвай Стасюк прасіў, каб пані пазволіла яму ісьці з намі у чацьвер.

РЫГОРКА. Ён там ня вучыцца, а толькі дурэе, вучыцельцы дакучае.. Учора вечарам вакно ў яе пабіў, зумысьля, каб толькі выгналі яго, мо тагды маці пусьціць у нашу школу.

АГАТКА (заікаючыся). А ўчора в-в-вайна была.

ЗОСЯ. Якая вайна?

АЛЕСЬ. А гэта мы гулялі у беларусаў і палякаў.

ЯНКА (усьмехаючыся). Ну і хто-ж каго заваеваў?

РЫГОРКА. Перш яны нас, а пасьля мы іх загналі аж на выган.

ЗОСЯ. А Стасюк-жа пры кім быў?

АЛЕСЬ. З намі. Тагды-ж ён і пусьціў камянём у вакно вучыцелькі, а яна кажа, што гэта зрабілі хлопцы з нашай школы.

ЗОСЯ. Гэта кепска...

РЫГОРКА. Не, Стасюк сказаў, што гэта ён зрабіў, сказаў што ўсе вокны паб'е. Вот біла яго маці.

(За дзьвярыма чуваць крыклівы голас АНТОНЁВАЙ). Хоць, хоць ты псякрэў! Я тобе пакажа!

ДЗЕЦІ (цішком сьмяюцца). Во, гэта яна Стасюка лае.

(Адчыняюцца дзьверы і ўбегае АНТОНЁВА, цягнучы за руку СТАСЮКА. Адзета па шляхоцку; капялюх, падвязаны устужкай зсунуўся на бок, чырвоная, злосная. СТАСЮК, вырваўшы руку, адыйшоў у бок і стаіць пахмурны).

АНТОНЁВА (да Стасюка, трасучы пад нос кулаком). Забія, забія, псякрэў твоя, злодзі ты, разбойнік. Я тобе пакажа з хамамі влучыцца.

ДЗЕЦІ (стрымліваюць сьмех).

АНТОНЁВА (да дзяцей). І вам пакажа, тэн-тэго як его. І чэму вас перун не забіе, хвароба ня вэзьме, мужыкі пшэклентэ?

ЗОСЯ (да Алеся, аддаючы пасьпешна флачкі і плакаты). Ідзіце, дзеткі, занясіце гэта ў школу і схавайце там у шафу.

АЛЕСЬ (да Рыгора і Агаты). Хадзем (выходзяць).

АНТОНЁВА. І сконд тэ пшэклент беларусы взеліся? Вымысьлілі якась, тэн тэго як его, Беларусь і бунтуё людзі, бунтуё дзеці.

ЗОСЯ (спакойна і лагодна). Чым магу быць патрэбна вам, пані Антонёва

АНТОНЁВА. А я пшышэдлась, цо бы ты, хамка, не бунтовала моего сына

(ЯНКА схапіўшы шапку выбег з хаты ЯЎХІМ пыкаючы піпку глядзіць на Антонёву з падлоб'я).

ЗОСЯ. Выбачайце, але я вашага сына першы раз бачу і неразумею, чаго вы крычыце ў маей хаце?

АНТОНЁВА. „Выбачайце, выбачайце“... тэн-тэго як его... Я не поймуя вашэго хлопскего янзыка.

ЗОСЯ Тым лепш... Бывайце здаровы!

АНТОНЁВА. О, не так то летко одэмне отчэпіцца. Наўчылі моего Стасечка па хлопску гадаць, хлопске песьні сьпеваць, а тэраз учыце вокны біць і красьць... Помысьліце тылько, тэн-тэго як его, лайдак (над Стасюком зноў кулакі) тэн, тэн прахвост украд муй шалік чырвоны, порвал моя спаднічка батыстова і зробіл, патшайце тылько (развёртывае пекны беларускі сьцяг)

ЗОСЯ (зьдзіўлена глядзіць. ЯЎХІМ аж выняў піпку з губы, падняўся, пагледзеў і ківаючы галавой, зноў сеў на сваё мейсца).

АНТОНЁВА. О, патшайце, патшайце, яка спадніца зосталася (паказывае

парванчю белую спадніцу. Да Стасюка) Тэн-тэго як его, ешчэ памёнтка моей бабулі, а ты цо зробіл? Украд, порзнол і в сенік сховал... га? То ты добры сын? То ты такі поляк і католік?

СТАСЮК. Я не паляк.

АНТОНЁВА. Цо, цо? Повец ты тылько мне ешчэ раз!

СТАСЮК. Я маме не раз казаў...

АНТОНЁВА. А ці я цебе тэды не біла, як мне ты то тэды гадал?

СТАСЮК. Чым больш біць будзеш, тым большым беларусам буду.

АНТОНЁВА (да Зосі і Яўхіма). Відзіце, відзіце, а кто его так научыл ?га? Можа не вы? Паскудніца ты, хамка ты, тэн-тэго як его, каб цябе ясны перун забіл, каб ты ў вастрозе згніла, каб це паскудна хвароба стачыла... Цьфу, цьфу, цьфу!...

ЯЎХІМ (выняў з губы піпку, плюнуў у куток, устаў, выпрастаўся як струна.. вочы загарэліся) А ліха тваей матары!.. (гукнуў з усей моцы, схваціў яе за каўнер, матануў кругом сябе, што аж пяткі яе ў патыліцу біліся і з імпэтам выкінуў за дзьверы. Вярнуўшыся, зноў спакойна сеў на сваім мейсцы з піпкай у зубах)

ЗОСЯ (час якісь сядзіць моўчкі, схаваўшы твар у руках, пасьля уздыхнуўшы, падымае галаву і ўбачыўшы Стасюка ў кутку ціха заве яго) Стасюк падыйдзі сюды... хадзі ка мне... (Стасюк падыходзе, яна моўчкі бярэ яго галаву ў далоні і цалуе яго ў лоб. Стасюк схіляецца да рук яе і пачынае плакаць) Ціха, Стасючок, ціха, не плач (лагодна гладзіць яго па галаве).

СТАСЮК (праз сьлёзы) Заўтра я прыду да вас у школу... Можна?

(ЗОСЯ нічога не адказвае, толькі мацней туліць да сябе яго галаву і йшчэ раз цалуе).

АНТОНЁВА (паказваецца у вакне і крычыць) Стаська! ідзь мне зараз да хаты. Я вам пакажа, я вам вшысткім пакажа... Я да начэльніка, да старосты паяда і ім пакажа, цо оні не хцо патшэць.

ЗОСЯ Ну, ідзі ўжо, Стасючок, ідзі да хаты мо' Бог дась змеміцца ўсё на лепшае. (Стасюк цалуе яе ў руку і выходзе. Паўза).

ЯЎХІМ. Цьфу, каб цябе немач, каб цябе... (устаў і вышаў).

ЗОСЯ (час якісь сядзіць задуманая. Твар яе з маркотнага памалу становіцца пагодным, уміленным, набожным... Глядзіць кудысьці ў даль... Паволі апушчаецца на калені і з пачуцьцём пачынае гаварыць):

Духу Бацькаўшчыны! У грудзёх маіх ня месьціцца тое вялікае, магутнае пачуцьцё радасьці і шчасьця...

Грэх, грэх чуць сябе шчасьлівай у той час, калі край наш і народ у сьлёзах і крыві тоне.

---

**Прачытаўшы передавайце суседзям!**

Грэх чуць сябе шчасьлівай, пакуль народ скуты ў ланцугі няволі пад ярмом чужацкім стогне.

Грэх быць шчасьлівай, калі праўду сьвятую ганьбяць прадажныя людзі... Калі цемра ночы пануе...

Грэх...

Чым я заслужыла на ласку Тваю, Духу Бацькаўшчыны?

Чым заслужыла, што Ты выбраў мяне нясьці сьветач у цёмны куток нашай вёскі беднай? Сеяць праўды зерняты у сэрцы людзкія, кідаць іскру каханьня да краю свайго, будзіць духа змаганьня за волю яго?...

Чым заслужыла, што пасеў мой ўжо рунее, што іскра агнём прамянее?

Чым заслужыла, што на шляху жыцьця свайго чалавека спаткала з душою агністай, мысьляй прамяністай і сілай магутнай? Я яго спаткала, шчыра пакахала і шчасьце з ім нашла...

Чым заслужыла?...

(Яе твар зіяець вялікім шчасьцем— гаворыць быццам у экстазе)

Я шчасьліва — бо працую і плён працы я ўжо бачу..

Я шчасьліва — бо кахаю і мяне кахаюць...

Я шчасьліва — бо я веру, моцна веру ў лепшы час, у народну сілу веру, у пабеды нашай славу...

Веру моцна...

НЯВІДОЧНЫ ГОЛАС.

Быць шчасьлівай — то ня грэх... Але памятай, што шчасьце нікому дарма не даецца — за яго трэ' цярпеньням плаціць... Табе-ж дадзена яно ў доўг і ўжо блізак час тваей заплаты.

Калі-ж і ў цярпеньні ты веры не страціш, наракаці ня будзеш на долю сваю — сіла духа пашлецца табе і тым зьменшыцца плата твая.

Будзь гатова, дачка.

(З першых слоў Голаса на твары ЗОСІ выражаецца страх, пазьней, паволі супакаіваецца і схіліўшы пакорна галаву кажэ):

Нехай будзе Твая воля, вялікі Духу Бацькаўшчыны...

ЗАСЛОНА.







**Абразкі з праўдзівага жыцьця.**



# РАЗСТРАЛЯНЫ...



Было гэта ў Горадзеншчыне ў пачатку 1919 г. Немцы, выпаўняючы вэрсальскі мірны дагавор, выходзілі з нашага краю.

Беларуская управа у Горадні і Беларуская Селянская Рада Горадзеншчыны, пры дапамозе Міністэрства Беларускіх Спраў стараліся грунтоўна умацаваць свой уплыў і стаць фактычнай уладай у краі.

З усходу наступалі рускія бальшавікі, а з захаду польскія паны... Надыходзілі грозныя сілы над замучанай, зруйнованай Горадзеншчынай.

Народ жадаў супакою, жадаў міру—напрыкрыла ўжо быць вандроўнікамі на чужыне. Усе стаялі за беларускую ўладу, за ўзмацаваньне ўлады ужо выбраных валасных, павятовых радаў ды Селянскай Рады Горадзеншчыны. Шмат было дабравольцаў у беларускі полк, што стаяў ў Горадні. Настрой быў такі, што народ гатоў быў азяць аружжа і адважна выступіць на бой за сваё права быць гаспадаром у родным краі.

Польскія паны забралі Беласток.... Рускія бальшавікі падыходзілі к Слоніму... Селяне чакалі, што скажэ Горадня, які дась покліч Селянская Рада.

Маўчала Горадня. Ва ўнутранным змаганьні памеж сабой, марнаваліся лепшыя сілы. Вораг перастулае парог роднай хаты, а яны ня могуць памеж сабой згаварыцца, ня могуць паладзіць, ніяк ня могуць вырашыць, каму быць першым. Той кажэ—я першы, а той — я... Разгарэліся асабістыя лаянкі, інтрыгі...

Маўчала Горадня...

Але народ ня мог маўчаць. Селяне самі бралі ў рукі стрэльбы і ішлі на змаганьне. Альбо памерці ў аткрытым баю, або мець вольнае, шчасьлівае жыцьцё.

Арганізоўваліся селянскія дружыны. На чале аднэй з гэтакіх дружын стаяў малады энэргічны вучыцель, сьвядомы беларусь, Мікола Петрашчук. Палякі занялі Горадню. Заарыштавалі шмат беларускіх дзеячоў. Усе турмы: Горадзен-

ская, Ваўкавыская, Беластоцкая, Берасьцейская былі перапоўнены беларускім селянствам.

Быў заарыштаваны Мікола Петрашчук.

Суд польскай дэфэнзывы быў вельмі кароткі — Міколу Петрашчука пастанавілі разстраляць.

Таго-ж самага дня, вечарам, пастанова суда павінна была споўніцца.

З жалезнымі ланцугамі на руках і на нагах Міколу прывялі разам з іншымі (іх было чалавек дваццаць) на мейсца разстрэлу. Петрашчук зірнуўшы наўкола сваім быстрым вокам, адразу скеміў у якім мейсцы знаходзяцца — ваколіца была яму вядомая.

Ён папрасіў, каб яму перад разстрэлам зьнялі ланцугі: — „Хачу паміраць вольным“. Жандары уважылі яго просьбу і нават запрапанавалі, ці не захоча ён выспаведацца.

Ужо гатовіліся даць стрэл, як раптам Мікола Петрашчук як страла з луку памкнуўся ў глыб лесу, толькі пяткі яго бачылі здэтынованыя жандары...

Раздаўся гучны стрэл — адзін... другі... трэцьці...

На мейсцы казьні было дзевятнаццаць трупаў — аднаго не хапала...

Жандары кінуліся ў лес, каб дагнаць Петрашчука, але той быў ужо далёка. Цёмны гушчар ласкава прыняў яго пад сваю апеку...

Прабраўшыся праз лес Мікола Петрашчук зайшоў ў вёску пераапрануўся селяне яго накармілі і далі начлег. А на заўтра чуць сьвет падвязьлі яго ў суседняе мястечка, дзе ён дастаў сабе пашпарт і стаў жыць пад чужым прозвішчам.

Праз некалькі дзён польскай уладай былі расклееены абвесткі, што Мікола Петрашчук, вядомы арганізатар паўстаньняў і г. д. разам з такімі-то, у такім-то мейсцы разстраляны.

А Мікола Петрашчук жыве сабе сярод нас і працуе на карысьць высвабаджэньня і адраджэньня нашай роднай бацькаўшчыны.

Эгэ-ж, якіх толькі ня бывае здарэньняў на сьвеці.

**Мілош.**



# ЯК ПАН ЕЎ СЕНА.

Калісь былося — чаўплося вось гэткае.

Жыў на сьвеці пан, як і ўсе паны— чалавека беднага ў людзі не лічыў і ня верыў, што ёсьць беда на сьвеці.

Сам бяды не знаў, то й людзём у бядзе не спагадаў.

І давялося раз таму пану зазнаць крыху гора.

Было гэта зімой на Палесьсі. Пан быў у горадзе, а на дварэ гуляла такая шугавея, што воч не расплюсьнеш.

Клічэ пан фурмана і кажэ:

— Запрагай, паедзем дамоў!

— Паночку, заблудзім!—кажэ фурман.

— Не тваё дзела — кажэ пан — заблудзім, то ўжо мая віна, не твая. Я буду казаць табе куды ехаць.

Фурман перад выездам пайшоў у краму, купіў каўбасы і паехалі. Што як што, а ў дарогу выбіраючыся кожны гаспадарны чалавек павінен падбаць, каб ня быць галодным. Пан-жа ўсю ноч банкетаваў, дык перад дарогай не падмацаваўся, паехаў на'т ня сьнедаўшы.

От едуць яны, а тут гэткая замець што на два крокі не відаць нічога. Дарогі саўсім не знаць, а пан кажэ:

— Бяры на права!

— Не — кажэ фурман — ня трэба бунтаваць каней. Конь сваім адумам вывязе, а як збунтаваць, то і ён страціцца.

— Слухай мяне, я пан, я вучоны і ведаю куды ехаць, а ты непісьменны, толькі сваімі забабонамі, а ня розумам кіруешся.

— Заблудзім, паночку!

— Ня бойся, яшчэ я ў сваім жыцьці ніразу не блудзіў і цяпер не зблуджу, А калі заблудзім, то мая віна.

Павярнуў фурман каней. Едуць, едуць ды.., штось ня тое. Ўжо і пан бачыць, што ня добра. Бачыць, дый кажэ:

— За шмат мы зьвярнулі ў права, павярні крыху ў лева.

Узяў фурман у лева ды не памагае. А тут ужо вечарэць пачынае.

Езьдзілі яны цэлы дзень, блізка да поўначы, ўрэшці прыехалі да стага сена. Ня было што рабіць і трэба было тут абначавацца. Паставілі каней каля стага, за ветрам, самі палезьлі ў сена дый чакаюць дня.

Пакуль пан капашыўся робячы гняздо ў сене, фурман выцягнуў з саней каўбасу, каб крыху падмацавацца. Але каб пана здурыць, дык ён тую каўбасу абвінуў жмутам сена і есьць.

— А што ты робіш? — пытае пан.

— Ды вячэраю, бо галодзен.

— А што ты вячэраеш?

— Што? Сена ем.

І паказывае пану жмуток сена ў кулаку. Падумаў пан дый кажэ:

— Вам мужыкам, па вашай натуры толькі сена і есьці. Смаку вы не знаеце

— Фурман слухае, есьць і нічога не кажэ. Пачакаўшы клічэ пан:

— Абач, васан!

— А што такое, пане?

— Ды вось — уздыхнуўшы кажэ пан — можа-б ты мне выбраў крыху сена, дзе памякчэйшае, дробненькае. Глядзі, каб без бадаўя. Можа-бы і я крыху з'еў, бо дужа галодзен.

Выбраў фурман дробненькага сенца, падаў пану. Рад-не-рад бярэ пан тое сена і пачынае жваць. Жве пан дый кажэ:

— Хоць і можна есьці, але усё-ж такі цяжка пасуваецца.

— Дык ведама-ж, сена, паночку — горла дзярэ. І мы яго з гора нашаго ямо.

— Ты мужык, то табе нічога, справа прывычная.

Гэтак яны дасядзелі да раніцы ў стагу і пад поўдня прыехалі дамоў.

Пасьля гэтага здарэньня пан стаўся куды лепшым, хоць толькі адзін раз у жыцьці давялося яму сена есьці.

І от, чаго не навучылі пана кніжкі і школы, таго навучыў жмуток сена.

Не дармо людзі кажуць: — Голад розуму вучыць.

**N. N.**



Не раз пытаўся я,
Якімі лацугамі катаў
Вялікая людзей сям'я
Дасюль акутая была ў жыцьці праклятым.
Цяпер пагрозы да няволі ўжо нема,
Скаціна нават чуе волю,
Свабода ў вёскі йдзе сама
І палепшае шчасьце, долю.
Чышчыра кажучы, здаецца мне,
Павінна скончыцца ўсё справядліва,
Што збудзілась, верце, не засьне
І што жывець, то будзе жыва.
Паны і паншчына міне,
Ня будзе цемры, гвалту, зьдзеку,
І селянін наш хутка дасягне,
Чаго жадаў ён ад прадвеку.
Ўпадзе ланцуг, замоўкнуць каты...
Свабоды сьвет да ўсіх зірне,
І ў хату курную, праз краты
кліч „волі і зямлі“ сягне..:

**П. А. КОРАЛ.**

# Уся зямля працоўнаму народу.

Хто ня ведае, чаму так блага жывецца нашаму гарапашніку селяніну, чаму ён такі сумны і пануры, чаму ён так нізка апусьціўшы носіць сваю галаву, чаму ён мае прыгнецены выгляд, чаму так бедна выглядае яго хацінка з нізкім сталяваньням, чаму заместа шкла жмут анучаў брудных стырчыць у вакне, чаму скацінка яго худая, чаму конік слабенькі, чаму дзеткі яго бледныя...

Усё гэта таму, што побач бедных вёсак стаіць пекны мураваны панскі палац. Там хораша прыбраны пакоі, там ня ведаюць, што ёсьць на сьвеці голад і холад, ня ведаюць, што значыць праца.

А жывуць у гэтых палацах лапчывыя польскія паны.

З куль тая несправядлівасьць на сьвеці? „Адзін ходзіць у саеце, у золаце з плеч да ног, а другому, каб прыкрыцца хоць анучай, велькі труд?!“. Чаму пан сам нічога ня робіць, а смачна есь, п‘ець заморскія віны, сьпіць у мягкай пуховай пасьцелі, а селянін працуе з малку дзён і заўсёды ў яго недахват, заўсёды ён галодны, бедна адзеты?

Чаму пан сваіх дзяцей можа вучыць у розных вышэйшых школах, а селянін не мае магчымасьці і ў пачатковыя школы пасылаць сваіх дзяцей? З куль такая розьніца? Няўжо-такі і ўзапраўды пан лепшы сын у Бога, а селянін горшы, ось-нібы той пасынак. Няўжо пан з іншага цеста зьлеплян, чым селянін? Няўжо і ў запраўды ў аднаго пана толькі белая костка а ў селяніна чорная? — Зусім не!

Усе людзі як людзі. І вочы тыя-ж і ногі і рукі. А тым часам розьніца ёсьць і нават вельмі вялікая.

Пан ніколі не падась рукі селяніну, не пагутарыць з ім па людзку, а селянін прыгнецены бядотай ды нудой стаіць прад панам зьняўшы сваю шапку і слова баіцца сказаць. Пан яго лаіць „быдлам“, а той падае перад ім на калені, абнімае ногі, чалуе вопратку... панскае ласкі ён просіць.

Гэтак было ў недаўнай мінуўшчыне.

Але перажытак гэтай вельмі нядобрай мінуўшчыны, застаўся яшчэ дзе-нідзе і цяпер. Ёсьць такія цёмныя і адсталыя селяне, што і цяпер зьняўшы шапку перад чужаедам панам просяць у яго панскае ласкі. Пан над імі кпіць, пагарджаіць імі, а яны ўсё-ж такі прадаўжаюць стаяць у позе пакоры, паніжаючы свой гонар чалавечы.

З гэтым злом неабходна змагацца. Неабходна тлумачыць такому селяніну, што, хоць і ў лапцёх ён, а такі-ж самы чалавек, як і ўсе іншыя людзі. Праца ніколі не паніжае чалавека, наадварот — гультайство паніжае чалавека. Той хто чэсна працуе, павінен гардзіцца сваей працай, а хто не працуе — не мае права нават і есьці.

Праца ёсьць абавязак кожнага парадачнага чалавека. Пан не працуе, — не мае права і ўладаць гэткімі багацьцямі. Усе гэтыя багацьці павінны належыць тым, хто сваім крывавым мазалём іх стварыў.

Селянін іх стварыў, знача селянін і мае права над імі гаспадарыць, а не пан, што сам нічога ня робіць.

Ведама, пан хітры, бо ён вучоны. Ён на тое і вучыўся, каб лаўчэй ашуківаць наш просты народ. Асабліва хітры польскі пан, якому дапамагаюць і польскія ксяндзы.

Яны тлумачаць нашаму народу, што зямля ім з прадвеку належыць, што так сам Бог устанавіў.

Усё гэта ёсьць няпраўда. Земля калісь была нічыя. Людзей тагды яшчэ было мала і той уладаў зямлёй хто сам яе абрабляў. І ніякіх тагды ня было паноў. Гэта пасьля ўжо, паны зьявіліся. А ў нас, на Беларусі, дык з Польшчы яны панаехалі, ось немяркуючы як і цяпер.

Польскія паны рознымі хітрасьцямі ды насільствамі паадбіралі ад беларускіх селян зямлю, прымусам заставілі працаваць на сябе, завялі паншчыну. З таго часу і пануюць яны ў нашым родным краі.

Працуе наш народ на іх прагавітыя жываты. Корміць іх сваім крывавым потам.

У сваім гаротным жыцьці і гадзінкі сьветлай немае наш беларускі народ.

„Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца.
Ну проста—хоць крыкні ратуй...“

Але хто прыдзе ратаваць? Хто ёсьць такі добры на сьвеці, што выратуе нашага селяніна з гора і бяды. Мусіць ніхто ня выратуе, аж пакуль усё працоўнае селянства не зарганізуецца не аб'еднаецца у вадну згодную грамаду. Гэтакай арганізацыяй і з'яўляецца „Сувязь беларускага працоўнага селянства“, якая ставіць першай і аснаўной сваей мэтай—змаганьне за высвабаджэньне зямлі з чэпкіх рук польскіх паноў. Уся земля працоўнаму народу, вось тая мэта за уцелаішчаньне каторай мы і павінны, як мага змагацца. Гэта ёсьць аснаўны фундамант дзержаўнай незалежнасьці Беларусі, аснаўны грунт усяго высвабадзіцельна-адраджэнскага нашага руху.

Справа зямельная, ёсьць справа нацыанальнага адраджэньня Беларусі. Гэта ўжо цяпер усім ясна, усім зразумела.

Дык вось тыя ўсе, хто ўзапраўды хочэ волі нашаму народу, нехай змагаецца за зямлю, за перадачу ўсей зямлі тым, хто сам на ей працуе, хто палівае яе сваім потам.

---

# НАША МОВА.

„Не запамінайце роднай мовы, каб ня ўмёрлі“.
**М. Бурачок.**

Расейскія памешчыкі і польскія паны заўладаўшыя аграмаднымі абшарамі зямлі на Беларусі і прыгнетаўшыя селянскі люд, ненавідзелі беларускую мову.

Ненавідзелі таму, што гэта мова кожную хвіліну, кожную гадзіну, кожны дзень і ўвесь час і усё жыцьцё прыпамінала ім — гэтым памешчыкам і панам — што яны прыйшлі і сідзяць на чужой зямлі, на беларускай зямлі.

Беларуская мова была сольлю ў вачах памешчыкаў і паноў: як ад солі баляць вочы, так ад беларускай мовы балелі вушы ў польскіх і расейскіх паноў.

Здаралася часамі гутарыць расейскаму памешчыку з нашымі селянамі і раптам як закрычыць:

— „Да што вы каверкаете русскій язык! Говаріте по — хрістіански.

А то бусурманіте какія — то непонятныя слова: „выбачайце... выбачайце“... Ну, что значыт эта ваша мужіцкая „выбачайце“?

Польскі пан, а разам з ім і кзёндз — паляк усюды і заўжды гаварылі нашым селянам:

— „Жуцьце вы, хлопы, тэ малповане кацапскай мовы... Розмавяйце на пожондным польскім ензыку... Жуцьце тэ хлопске—„гэты... гэты...“ „Якесь быдлячэ слово... „гэты... гэты...“

Высьмевалі і зьдзекаваліся над нашай роднай мовай, зачынялі нашы беларускія школы, а замест іх адчынялі расейскія і польскія, забаранялі пісаць і друкаваць нашыя беларускія кніжкі і газэты, а замест іх давалі нашаму народу чытаць расейскія або польскія кніжкі.

З двух бакоў імкнуліся задушыць нашу мову, але не задушылі, з двух бакоў нішчылі беларускія кнігі, але ўсіх не вынішчылі і ад старадаўніх часоў засталася нам беларуская літэратура, адкуль як з крыніцы мы чэрпаем хараство нашае чыстае мовы. Другая крыніца наша — гэта мова нашага беларускага сялянства, якое захавала сваю родную мову, ня гледзячы на шмат вяковы чужацкі гнёт, на панаваньне ў нашай зямлі расейскай і польскай мовы.

Вялікае дзякуй табе, беларускае сялянство, за тваю адвагу і шчырую любоў да роднай мовы.

Вялікае дзякуй табе будуць казаць усе будучыя беларускія пакаленьні.

Беларусы! Шануйце і любіце сваю родную, пекную мову! **І. К.**



# Беларуская моладзь!

„Са шчытом ці на шчыце“, гаварылі дрэўнія грэчанкі — маткі, выпраўляючы сваіх сыноў на барацьбу з ворагамі айчыны. Гэта значыла: або са славаю жывы вертайся дамоў, або хай прынясуць цябе товарышы на шчыце мёртваго і зноў такі са славаю гэроя, загінуўшага ў барацьбе за айчыну і свой народ.

З такім-жа заветам звертемся да Цябе, Беларуская Моладзь, надзея і апор нашага многапакутнага народу. Выходзячы на жыцьцёвы шлях, заўсёды памятай, што не для вясельля і выгад ідзеш, а выступаеш на змаганьне і ў першы чарод за твой абяздолены Народ Беларускі.

Агляніся вакол сябе, паслухай што бачыш, што чуеш.

Бачыш і чуеш, што родная твая старонка, адвечная сядзіба тваіх продкаў, запалонена злымі чужынцамі, прынёсшымі гора — бяду, зьдзек, голад, холад, бічы — скарпіёны, турмы і ўсялякае іншае бяздольле нашай Бацькаўшчыны. Ад вякоў вечных, нават у самыя чорныя былыя часы нядолі, наш край не бачыў такой злыбяды, якую зносіць цяпер. Было падобства на нейкую законнасьць, справядлівасьць, або хаця літасьць, а цяпер? Польскі самадур — пан цяпер ня знае інакшых законаў, апрача безпардоннай самаволі, глуму над чужым яму народам „што захачу, тое і зраблю,“ кажэ польскі кат і робіць так, як кажэ: ўсю мізэрную маемасьць нашага народу адбірае, увесь слабы харч нішчыць — пхае у ненасытнае горла сваіх адурачаных жаўнераў, ганяе на паншчыну, паднявоківае народ беспраўны, як можэ, — школы і бальніцы зачыняе, каб цёмны народ не разабраўся ў тым, што над ім робіць польская хмара дармаедаў, каб выміраў хутчэй бяз лек — і такім чынам пакінуў панам і свой узкі загон — шнурок, а ня то, каб яшчэ дабраўся да панскага двара — абшару; бежанскую, адвечна—уласную зямлю аддае сваім жаўнерам абароннікам панскіх інтэрэсаў, палацаў пышных і маёнткаў, а нашых бежанцаў нешчасных, тубыльцаў свайго краю, томіць і мучыць пры выдуманай ім граніцы, ня пушчае дамоў, не дае нават пагляздець на родную зямлю, роднае неба, падыхаць збалелымі грудзьмі родным паветрамъ.

Стогне і плачэ Твой родны край, вышэй неба падняўся яго смутак, вертаецца стуль назад буйнымі сьлязьмі.

Ходзіць Народ загнаны, апусьціўшы галаву на змучаныя грудзі, хаваецца ў ямы, туляецца па родных лясох, разсказывае пушчам аб сваей нядолі. Але і пушчы стогнуць і плачуць, бо і ім не даюць спакою наезьнікі польскія: рубаюць нашы векавыя бары і прадаюць на сваю карысьць, пераводзяць наша дарбо на п'янства і шык нязьмерны. А нашы бацькі — маткі, нашы браты — сёстры жывуць у будах.

Моладзь! У Цябе шчырая спачулая душа! Ты ўсё гэта бачыш лепей і ясьней Тваім духоўным вокам, мацней адчуваеш гора народнае.

Набірайся сілы, узгадовывай крэпасьць духа — служыць толькі Твайму роднаму абяздоленнаму краю, Тваей роднай маці — Беларусі.

Будзі Народ ад рабскай спячкі, стаў яго душу на вольныя ногі, рабі яго вольным гаспадарам сваей зямелькі.

І лепей загінуць ў барацьбе за лепшую долю свайго Народу, лепей згінуць у турмах подлых насільнікаў, чым стаць папіхачом — парабкам, чужынца, польскага пана.

Кляймі пазорам усіх здраднікаў нашага народу, ўсіх спэкулянтаў духа народнага. Заві народ стаяць да канца на варце роднай Зямелькі і Волі.

„Са шчытом ці на шчыце“!

**Каршунец.**

0-10

# ЗЬМЕСТ № 2.




Выдавец: Сувязь Беларускага Працоўнага Селянства.
Рэдактар: Рэдакцыйная Камісія.